Інфармацыйны бюлетэнь
г. Ашмяны

# Грамадзянскі ФОРУМ

The bulletin is made up on the equipment given by US Information Agency (USIA) №20 (26) 15 – 31 кастрычніка, 2000 г.

# Вынікі выбараў: байкот удаўся!

**Масавымі грубымі парушэннямі ў ходзе галасавання і вельмі малым працэнтам яўкі выбаршчыкаў былі адметныя выбары ў палату прадстаўнікоў, якія прайшлі ў мінулую нядзелю. Паводле звестак дэмакратычнай апазіцыі, якая вяла ўласны падлік людзей, якія наведалі выбарчыя ўчасткі, сапраўдная яўка склала крыху больш за 40%, а па Мінску — не больш за 30%. Гэта значыць, што агучаны апазіцыяй заклік да байкоту быў пачуты большасцю беларусаў, якія праігнаравалі выбары ў псеўдапалату.**

У той жа час, па звестках Цэнтрвыбаркама, кантралюемага ўладай, на выбары прыйшло крыху больш за 60% выбаршчыкаў. Пры гэтым, нават па звестках прызначанага А.Лукашэнкам кіраўніка ЦВК Лідзіі Ярмошынай, яшчэ за некалькі гадзінаў да заканчэння галасавання патрэбнага працэнта выбаршчыкаў, які складае 50 працэнтаў – не было. Але адразу пасля заканчэння часу галасавання была агучаная лічба ў 52%. І раптам праз некалькі гадзінаў лічба "ў выніку апрацоўкі бюлетэняў" вырасла да 60%. Якім чынам такое стала магчыма, застаецца незразумелым, паколькі дадзеныя з раённых і абласных выбарчых камісіяў мусілі паступіць да Ярмошынай адначасова.

А дванаццатай гадзіне паслявыбарнай ночы на штаб-кватэры Беларускага Народнага Фронту была сабраная прэс-канферэнцыя, якую вялі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і каардынатар па замежных справах аргкамітэта Хартыі'97 Андрэй Саннікаў. На тварах лідэраў апазіцыі лёгка чыталася эйфарыя і задаволенасць вынікамі выбараў, а дакладней, адсутнасцю вынікаў. Былі названыя некаторыя лічбы. Так, у прыватнасці, па Магілёве, па падліках апазіцыі, прагаласавала 33%, у Віцебску — столькі ж, у Салігорску і Наваполацку — 34-35%, а ў Мінску — увогуле крыху больш за 30%.



Таксама былі пералічаныя многія парушэнні пры правядзенні галасавання, а ў спецыяльна складзеным спісе іх былі ўвогуле сотні.

У прыватнасці, гэта было паўсюднае хаджэнне па кватэрах з выбарчымі ўрнамі без заяўкі выбаршчыкаў; скарачэнне спісу выбаршчыкаў – на многіх участках прыкладна а 19-й гадзіне, калі стала бачна, што выбары не адбываюцца, пачалі "ўдакладняцца" спісы выбаршчыкаў, і з іх дзесяткамі і сотнямі знікалі людзі. На пытанні людзей, якія кантралявалі ход выбараў, члены выбарчых камісіяў адказвалі: "Людзі з'язджаюць, людзі паміраюць..." Як быццам людзі паміралі сотнямі менавіта ў дзень галасавання. Многія ж, хто прыходзіў на ўчасткі, – не знаходзіў свайго прозвішча ў спісах выбаршчыкаў. Ва ўсю ішло галасаванне па студэнцкіх білетах і розных іншых дакументах, якія не з'яўляюцца афіцыйнымі. Звыклае ўжо галасаванне за сяброў ды родных, таксама катэгарычна забароненае Выбарчым кодэксам, прысутнічала паўсюдна. І, нарэшце, абсалютна неверагодная лічба тых, хто прагаласаваў датэрмінова, – 15%, а па Гродзенскай вобласці — увогуле 20%.

На многіх працуючых у дзяржаўных структурах і асабліва на студэнтаў, што жывуць у інтэрнатах, аказваўся страшэнны ціск з пагрозамі "ўжо назаўтра выкінуць за межы інтэрната, калі не пойдзеш і за каго-небудзь не прагаласуеш".

Такім чынам, відавочна бачныя ўсе падставы для непрызнання выбараў сусветнай дэмакратычнай супольнасцю. Але ж Расія выбары ў Беларусі ўжо прызнала, а спікер Дзярждумы камуніст Г.Селязнёў выказаў упэўненасць, што цяпер беларускую палату вернуць у еўрапейскія міжпарламенцкія структуры.

Асобна была абмеркаваная праблема назіральнікаў. Афіцыйна на Беларусі іх не было, бо еўрапейскія структуры абмежаваліся адпраўкай да нас толькі тэхнічных экспертаў, якія непасрэдна за выбарамі назіралі. Калі ж Людміла Маслюкова з "Советской Белоруссии" на прэс-канферэнцыі задала Андрэю Саннікаву пытанне, чаму ж ён не лічыць міжнароднымі назіральнікамі прадстаўнікоў Азербайджана ці, прыкладам, Ірана, у зала здарыўся дружны приступ смеху.

Такім чынам, улады арганізавалі чарговую фікцыю, дэмакратычная апазіцыя іх у чарговы раз публічна выкрыла. Паўтарылася гісторыя рэферэндуму'96, заканадаўчая ўлада на Беларусі зноў была **прызначаная**. З чым усіх і віншуем.

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

# Анатоль Лябедзька будзе судзіцца з А.Лукашэнкам

Анатоль Лябедзька, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі і віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання, звярнуўся ў суд Фрунзенскага раёна Мінска з іскам да Аляксандра Лукашэнкі. Падставай для такога рашэння стаў выступ, цяпер ужо адказчыка ў судовым парадку, у эфіры беларускага тэлебачання ў нядзелю, 15 кастрычніка 2000 года. Зроблены ён быў у прамым тэлеэфіры на выбарчым участку, дзе Лукашэнка галасаваў на непрызнаных выбарах у палату прадстаўнікоў. Анатоля Лябедзьку, у прыватнасці, абразілі такія словы: "... а там жа гэтыя грантадаўцы ў канцы на дванаццаці ці шаснаццаці аўтамабілях выглядвалі з акон... а некаторыя дэманстравалі разам з гэтымі дэманстрантамі... вы думаеце, чаго яны сабраліся, трэба ж было даказаць, што па паўтары тысячы долараў дапамогі адразу Лябедзьку не проста так аддаюць... разумееце, калі б вы ведалі, колькі ім даюць грошай, то вы б ахнулі... ім жа трэба адрапартаваць..."

Словы гэтыя Анатоль Лябедзька лічыць паклёпам, які абражае ягоны гонар, годнасць і прафесійны імідж. Сам аўтар іска кажа: "Агульнавядома, што Лукашэнка пакутуе на слоўнае нетрыманне. Лукашэнка мае звычку публічна выліць на апанента выварку бруду, а пазней схавацца ў пабудаваным ім форце пад назвай "Прававое бязмежжа". Гэта тып паводзінаў пахана, але ніяк не дзяржаўнага мужа. Калі Лукашэнка гатовы прадставіць у якасці доказу ягоных абвінавачванняў тыя паўтары тысячы долараў альбо відэафільм, у якім паслы замежных дзяржаваў, азіраючыся па баках, перакладваюць у кішэні Лябедзькі шамацячыя зялёныя купюры, няхай зробіць гэта! Калі не, то няхай хоць бы раз за шэсць гадоў пакажа, што ён яшчэ мужчына, і прызнаецца ў хлусні і паклёпе!"

Ад Аляксандра Лукашэнкі Анатоль Лябедзька патрабуе выбачэнняў у вечаровым тэлеэфіры, але наколькі гэта рэальна ў такой дзяржаве, як Беларусь?

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

# Споведзь удзельніцы ўчастковай выбарчай камісіі

Я – шараговы сябра ўчастковай выбарчай камісіі ў Першамайскім раёне Мінска. На гэтай пасадзе ўжо некалькі гадоў. У мяне шмат разоў пыталіся, якія існуюць тэхналогіі падтасоўкі вынікаў галасавання. Я не магла адказаць, таму што наша камісія працавала заўсёды чыста. Я была ўпэўненая ў гэтым. Цяпер, на жаль, ведаю. А робіцца ўсё проста і цынічна. Мне не хацелася б называць каардынаты і прозвішчы людзей, з якімі я даўно працую і добра да іх стаўлюся. Тым больш, што тое, што адбылося з нашай камісіяй, мяркуючы па ўсім, тыпова для ўсіх выбарчых камісіяў. Наш участак ніколі не вызначаўся вялікай актыўнасцю. А на гэты раз ужо да палудня было зразумела, што выбары на ўчастку не адбыліся. Хаджэнне са скрынямі па кватэрах не дапамагло. Людзі галасаваць адмаўляліся. Кіраўнікі камісіяў нерваваліся. Нам было вядома, што дырэктара нашай установы выклікалі ў адміністрацыю раёна, дзе папярэдзілі пра адказнасць за вынікі выбараў на ўчастку. Падкрэсліваю, кіраўнікі ўстановы абавязаны адказваць перад Адміністрацыяй не за добрасумленную працу падпарадкаваных ім людзей, а за волевыяўленне прыкладна трох тысяч зусім незнаёмых грамадзянаў. У якім становішчы апынуліся ў гэтай сітуацыі старшыня і сакратар камісіі? Да васьмі гадзінаў вечара на нашым участку прагаласавалі прыкладна 30 працэнтаў выбаршчыкаў. І калі камісіі займаліся апрацоўкай бюлетэняў, вынутых са скрыняў (тут усё было чэсна), некалькі чалавек на чале са старшынёй і сакратаром працавалі са спісамі выбаршчыкаў. Падкрэсліваю, усё адбывалася пасля таго, як участак быў закрыты для галасавання. Ніякага абмеркавання не было, і я абсалютна выпадкова ўбачыла, што адбываецца. Супраць выпадкова выбраных прозвішчаў людзей, якія не прыйшлі на выбары, рабіўся запіс "выбыў". Такіх раптам зніклых невядома куды і калі, на нашым участку аказалася 600 (!) чалавек. Адпаведна, у пратаколе колькасць людзей у спісах зменшылася на 600. Атрымліваецца, што калі па пратаколах камісіяў падлічыць колькасць патэнцыйных выбаршчыкаў Мінска, то можа атрымацца, што дарослае насельніцтва ў горадзе зменшылася на 20-30 працэнтаў. Падтасоўка такога маштабу дазволіла павялічыць працэнт прагаласаваўшых на нашым участку на 9 працэнтаў. Выбары ў нас усё ж такі не адбыліся. Самае сумнае, на мой погляд, што пакуль выбраныя фабрыкавалі пратакол, усе астатнія сябры камісіі, а сярод нас было шмат маладых, цярпліва, некаторыя з апушчанымі вачыма, чакалі. А цягнулася гэта паўтары гадзіны. І ніхто не абурэўся. І усе, апрача двух чалавек, падпісалі гэты фальшывы дакумент. Мне выпадкова давялося пагаварыць з такой жа шараговай удзельніцай выбарчай камісіі. На пытанне, як у іх праходзіла, яна адказала, што ўсё нармальна. "І не выкідалі людзей са спісаў?" "А, гэта,– адказала яна, — так інакш выбары не адбыліся б. А пасля зноў вылучаць кандыдатаў? А навошта?"

***Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна"***

# Галасаванне за месца ў інтэрнаце

Другі тур так званых выбараў у палату прадстаўнікоў зноў унёс некаторую сумятню ў жыццё жыхароў беларускай сталіцы.

Прыкладам, студэнты БДУ, БДПУ, БДЭУ і некаторых іншых дзяржаўных вышэйшых навучальных установаў вымушаныя былі ў нядзелю пайсці на заняткі ў свае ВНУ па той прычыне, што дзень зрабілі для іх працоўным, перанёсшы выхадны на нейкі іншы будні дзень тыдня.

Але ж сапраўдная прычына – забеспячэнне яўкі студэнтаў на выбары, асабліва жыхароў іншых гарадоў і пасёлкаў. Каб яны 29 кастрычніка не паехалі да таты з мамай, а пайшлі і выканалі свой "канстытуцыйны абавязак". Прапанова прагаласаваць у шмат якіх ВНУ падмацоўвалася пагрозай пазбавіць месца ў інтэрнаце.

У мінулыя выхадныя звычайна пасіўныя бэпэсэмаўцы заляпілі ўвесь цэнтр горада аркушамі з заклікам да моладзі "галасаваць за свой выбар". Пры гэтым, па-першае, улёткі былі наклееныя ў дзень, калі ўжо забароненая любая перадвыбарная агітацыя, а па-другое, клеілі ў непатрэбных месцах — на дарожныя знакі, дзверы пад'ездаў, трубы, дрэвы, сцены дамоў і г.д. Трэба думаць, што Мінгарвыканкам спагоніць з лукамольцаў грошы на аплату камунальнікам, якім прыйдзецца чысціць горад ад гэтага смецця.

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

# Чыкнутае тэлебачанне

**Ужо амаль тры месяцы, як у Белтэлерадыёкампаніі мятуць новыя мётлы – старшыня Віктар Чыкін з намеснікамі, вядучым "Рэзананса" Аляксандрам Зімоўскім і колішнім кіраўніком Магілёўскага тэлебачання Ягорам Рыбаковым. Мятуць так, што ідэалагічнае смецце становіцца на БТ абсалютнай эфірнай дамінантай. Усе пераўтварэнні, што ладзяцца на Макаёнка, 9 згодна з чыкінскай канцэпцыяй развіцця тэлебачання, не дзівяць: яны відочна намеркаваныя да прэзідэнцкіх выбараў, што мусяць адбыцца ўлетку ці ўвосень наступнага года.**

Перамены ў дзейнасці БТРК перадвызначае закрытая інструкцыя пад назвай "Некаторыя прапановы па ўдасканаленні работы Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі". Паводле гэтага дакумента, задача беларускага тэлебачання і радыё павінна ўяўляць сабой "фармаванне ў міжнароднай грамадскасці вобраза Беларусі як сучаснай дзяржавы", прычым "з цвёрдай, легітымнай дзяржаўнай уладай" і "прававой сістэмай, якая забяспечвае правы, свабоды і бяспеку грамадзянаў". Карацей, хлусіць. Дзеля дадатковага эфекту баек пра росквіт камандна-калгаснай эканомікі і дыфірамбаў ураду і Лукашэнку мяркуецца выкарыстоўваць прыём кантрасту. У прыватнасці, на БТ збіраюцца больш акцэнтавацца на негатыўных сюжэтах пра іншыя краіны. Да ўсяго на тэлебачанні і радыё арганізоўваюцца нейкія ідэалагічныя рэдакцыі.

Асаблівая стаўка робіцца на так званыя інфармацыйна-аналітычныя праграмы — мялешкаву "Падзея", дзмітрыеўскія "Палітычныя дыялогі" і ў першую чаргу на "Рэзананс" Зімоўскага і "Панараму" Казіяткі. Усе яны павінны вытрымліваць ні больш ні менш "дакладную палітычную скіраванасць". Маюцца нават намеры наладзіць "падсвядомы кантакт з гледачом, які прадугледжвае ў перспектыве як масавую, так і мэтанакіраваную інтэрактыўнасць палітычных праграмаў".

Увесь працэс рэалізацыі чыкінскай тэлеканцэпцыі знаходзіцца пад асабістым кантролем Аляксандра Лукашэнкі. За два апошнія месяцы ён правёў з кіраўніцтвам БТРК ажно некалькі нарадаў (пры старшыняванні Рыгора Кісяля такой пільнасці не было, і, у прынцыпе, усё ішло на самацёк). Дарэчы, на апошняй нарадзе на Віктара Чыкіна была ўскладзеная да ўсяго і арганізацыя БТ-2 на грунце "Сталічнага тэлебачання". Так што можна ўжо загадзя ўявіць сабе, якім будзе другі беларускі тэлеканал.

Між тым беларускае тэлебачанне стала тлуміць галовы толькі прыкладна не больш як 1,5 мільёнам беларусаў – рэальны рэйтынг глядзельнасці БТ не сягае за 15% насельніцтва. Таму галоўная мэта перад бэтэшнікамі – павелічэнне глядацкай аўдыторыі. Што да цікавасці і мастацка-тэхнічнага боку вяшчання, то і тут ужо разгортваецца некаторая рэвалюцыя.

Кіраўніцтва тэлебачання кажа, што перад творчымі рэдакцыямі ў якасці галоўнай стаіць задача значна палепшыць якасць праграмаў. Адным з рухавікоў гэтага называюць канкурэнцыю паміж тэлевізіёншчыкамі. Аднак ствараць яе на БТ збіраюцца даволі дзіўным чынам. Справа ў тым, што цяпер тут працуе 630 чалавек. У спецыяльныя творчыя брыгады, якія зараз ствараюцца нанова, увойдзе каля 150-170 супрацоўнікаў. Але астатніх не звольняць, а запішуць у рэзерв. Нават зарплату – каля 20 мільёнаў — будуць даваць. Калі што, тых, хто з так званых асноўных супрацоўнікаў спрацуе нездавальняюча, заменяць на выведзеных з прастою рэзервістаў. Вось такі падвойны рэжым канкурэнцыі і сацыяльнай абароны.

З 1 кастрычніка на БТ "чыкнулі" цэлых 19 праграмаў, сярод якіх далёка не горшыя "Акалада", "Абібок", "Аўта-парк", а таксама тры зусім свежыя (травеньскія) шоу, з рэкламаваннем якіх, памятаецца, завіхаліся каля месяца, — "Будні", "Адысея каманды Кухто" і "Нашы песні – наша жыццё". Калі дзве апошнія выглядалі дурнотна, то "Будні" трохі шкада: якая-ніякая, хай кволая і з купюрамі, але публіцыстычнасць там прысутнічала. Між іншым, гэта былі праекты, якія курыраваў генеральны прадзюсер БТ Ягор Хрусталёў. Яшчэ за некалькі тыдняў да прызначэння Віктара Чыкіна ён гаварыў пра тое, што ў АТН палітычныя навіны падаюцца занадта жорстка, пра вымогу вольнага духу на тэлебачанні, пра тое, што сюды павінны прыйсці маладыя кадры з новымі ідэямі. Цікава, як зараз Хрусталёў знаходзіць агульную мову з бэтэшным кіраўніцтвам?

Замест скасаваных з эфірнай сеткі праграмаў з'явяцца столькі ж новых, зробленых кампаніяй "ФІТ" і адабраных па конкурсе. Уводзіцца ў эфір яны будуць з улюбёнага дня Віктара Чыкіна – "чырвонакаляндарнага" 7 лістапада.

Мастацкія фільмы плануецца паказваць пераважна з савецкага кінафонду, а дэманстрацыю амерыканскіх скарацiць. За эксперымент можна ўважаць нядаўні паказ на працягу цэлага тыдня пасля вечаровых навінаў "Падлетка" паводле Дастаеўскага. Не, пісьменнік выбітны і фільм неблагі, але людзей, што выматаліся за дзень на працы, шкада. Дастаеўскі – зусім не адпачынак.

Разам з тым памяняецца схема арганізацыі тэматычных тэлевізійных блокаў. Яна будзе выглядаць прыкладна так: ранішняя "вінегрэтная" праграма, спорт, серыял, культура, здароўе... Падрабязнасці і тое, што за новыя перадачы з'явяцца, пакуль трымаецца ў строгім сакрэце.

Сюжэты пра Лукашэнку транслююцца цяпер толькі па-руску. Кажуць, гэта ягонае асабістае пажаданне. Наогул што да беларускай мовы, то такое ўражанне, што ад яе на тэлебачанні вырашылі паступова пазбаўляцца. Дыктарам і вядучым ёсць негалосная ўстаноўка старацца пазбягаць "амерыканізмаў" і "паланізмаў". Такое ўражанне, што на БТ, дзе і без таго працуюць адзінкі беларускамоўных, гэта ўспрынялі як "зялёнае святло" моўнаму гармідару. Ужо зараз дыктары навінаў, якія мусяць мець як ніхто ўзорную культуру мовы, да сваіх аскомінна-звычайных "два прэзідэнт-а", "па футбол-у", пачалі наўпрост сыпаць русізмамі.

Нарэшце, "цвік" – дакументальны серыял ачоліўшага рэдакцыю літаратурна-мастацкіх праграмаў Юрыя Азаронка "Таемныя спружыны палітыкі", дзе той выконвае відочны ўлады заказ па пляжанні нацыянальнай апазіцыі, прычым пахвораму і па-хамску. Таму не дзіўна, што ён стаўся запатрабаваным і з'явіўся ў эфіры БТ адмыслова пад выбарчыя кампаніі. Сёлетняя парламенцкая – толькі рэпетыцыя да прэзідэнцкай наступнага года. Зараз беларускае тэлебачанне ідэалагізуецца проста ўвачавідкі. АТНаўскія навіны, "Рэзананс" і "Панарама" не толькі становяцца больш насычанымі безальтэрнатыўнай дзяржаўнай прапагандай, але і больш доўгімі. Вечаровы эфірны час гэтых праграмаў амаль штодня любяць расцягваць прыкладна ўдвая, пры гэтым іхні змест уяўляе сабой пераліванне з пустога ў парожняе. Гэта ўяўляе сабой своеасаблівыя ловы тэлегледачоў – тых, хто выпадкова альбо дзеля якога-небудзь фільма пераключаецца на БТ пасля, напрыклад, прагляду 9-гадзінных навінаў на НТБ, ОРТ ці РТР. Думае, што бэтэшныя навіны таксама скончыліся, а там – чык! – яшчэ, даруйце слэнгавы выраз, "грузяць".

Аднак прайграная уладамі парламенцкая кампанія паказвае, што паступова тое, чым займаецца беларускае тэлебачанне, зазнае эфекта бумерангу. Проста перад тым, як уцяміць, што яму кажуць няпраўду, народ спачатку адчувае, што яго штодня зацюкваюць адным і тым жа.

Не выключана тое, што Віктар Чыкін і прызначаўся толькі часова. Да таго ён можа пайсці і сам. Па стане здароўя. Праца на БТ, відаць, для яго задужа нервовая: перад самымі выбарамі ў палату Чыкін з дыягназам "сардэчная недастатковасць" патрапіў у рэанімацыю.

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

# Бэзавы піар *

## * - замежнае слова, сэнс якога не патлумачаны грамадзянам.

**Мікалай ХАЛЕЗІН**

**Часам у мову пранікаюць дзіўныя словы. Яны становяцца моднымі на нейкі пэрыяд часу, іх з задавальненьнем выкарыстоўваюць грамадзяне... А праз некалькі год раптам разумеюць іх сэнс. І тады наступае шчасьлівае імгненьне прасьвятленьня: “вось, аказваецца, што гэта значыць, а я ж думаў зусім інакш”. Магчыма, і пасьля прачытаньня гэтага матэрыяла нехта з вас скажа: “ну, блін, справы!”. І будзе правы.**

**“Чорны” піар**

Некалькі год таму расейскія тэлеканалы ўвялі ў розум беларусаў дзіўнае спалучэньне літараў – “піар”, і не паклапаціліся патлумачыць, што б гэтае слова значыла. Да таго ж выкарыстоўваць яго журналісты сталі то са словам “чорны”, то безь яго. Што нарэшце заблытала даверлівых грамадзянаў. Прычым, калі гэты самы “піар” выкарыстоўваўся без колеравай афарбоўкі – ён быў, быццам, добры, а калі “чорны” – дык, здаецца, дрэнны.

Што ж азначае гэтае дзіўнае слова – “піар”? Толькі чалавек, які ведае ангельскую мову можа зразумець, што “пі” – гэта ангельская літара “P”, а “ар” – гэта літара “R” з той самай мовы. Разам атрымліваецца абрывіятура PR. А калі расшыфраваць, дык Public Relations. У перакладзе з ангельскай мовы гэта значыць – “грамадзкія сувязі”. Вось так проста. Вы запытаецеся: а пры чым тут “чорны”? А я вам адкажу: ня ведаю. Па-першае, калі “грамадзкія сувязі”, дык “чорнЫЯ”, а ня “чорны”. А па-другое, чорныя грамадзкія сувязі можна ўявіць толькі ў Афрыцы, ды і тое, калі валодаць не малой доляй цынізма.

Грамадзкія сувязі ня могуць мець колераў і адценьняў. Вось як фармулюе Public Relations амэрыканскі падручнік “Сучасны бізнэс ”: *Public Relations – узаемадзеяньне кампаніі з рознай аўдыторыяй па за сфэрай продажу. Уключна ўсталяваньне адносінаў як непасрэдна з шырокай грамадзкасьцю, так і з прадстаўнікамі СМІ.* Вось так проста – узаемадзеяньне і ўсталяваньне адносінаў.

Гісторыя зьяўленьня дзіўнага слова “піар” простая. Расейскім палітычным тэхнолягам неабходна было спалучэньне літараў, якімі можна назваць тую працу, якой яны займаюцца. Уяўляеце сабе, што падумаюць пра чалавека, які на пытаньне – шым займаесься? – адказвае: дыверсіямі і правакацыямі. Прыгажэй сказаць: “чорным піарам”. Высакародна і загадкава.

**Падводны піар**

Гібель атамнай падводнай лодкі “Курск” слала сапраўдным залатым дном для расейскіх “піаршчыкаў”. Групы, каторыя працуюць на розных палітычных і непалітычных лідэраў, прыдумалі такую колькасьць іміджавых “фокусаў”, што іх хапіла б на гібель усяго расейскага флота.

Для пачатку нехта параіў ваенным не распавядаць насельніцтву праўду пра тое, што адбылося ў Баранцавым моры, і забыў, напэўна, пра тое, што ў Расеі яшчэ засталося некалькі ня купленых уладай журналістаў. Гэтыя журналісты і паднялі шум, такі нявыгадны ўладзе. Калі б на “Курске” знаходзіўся дзясятак маракоў, які ня мелі родных, дык схаваць зьнікненьне лодкі, памерам з шасьціпавярховы і дзевяціпад’ездны дом, не склала б ніякай цяжкасьці. Але на грэх, у маракоў аказаліся родныя, і схаваць “канцы ў ваду” не далі.

Далей разгарнулася дзіўная эпапея з адпачынкам недаўна абранага расейскага прэзыдэнта. Ягоная група “піаршчыкаў” вырашыла, што спыняць адпачынак з-за нейкіх маракоў-падводнікаў ня трэба, а можна лёгка кіраваць працэсам выратаваньня экіпажа, які гіне ў Баранцавым моры, зь берагоў Чорнага. Так расейскі галоўнакамандуючы і зрабіў. Што адразу адбілася на любові расейскага народа да свайго лідэра. Недаробленыя “піаршчыкі” асэнсавалі, што здарылася нешта ня тое, і сталі “адмываць” свайго шэфа ад наліпшай марской ціны.

Першым у працэдуру “адмыўкі” ўключыўся галоўны расейскі вайсковец, міністар абароны Ігар Сяргееў. Ён зьявіўся на канале ОРТ з выглядам нашкодзіўшага сувораўца і пачаў распавядаць расейцам аб тым, як “заходняя” падводная лодка загубіла расейскую. Аб тым, куды ж зьнікла тая самая “заходняя” лодка, якая вытрымала ўдар шасьціпавярховага дома, міністар не сказаў. У канцы інтэрв’ю Сяргееў пачаў казаць пра галоўнае, – пра тое, як перажываў катастрофу “наш прэзыдэнт Уладзімір Уладзіміравіч Пуцін”. У вачах расейцаў, мяркуючы па прамове, павінна была зьявіцца нянавісьць да загінуўшых падводнікаў, якія прымусілі пакутаваць бясцэннага расейскага лідэра. Але нянавісьць не зьявілася, я зьявілася зьдзіўленьне, якога лешага Пуцін сядзіць на паўднёвым курорце, калі на поўначы гіне больш за сотню маладых хлапцоў?

Маналёг міністра не спрацаваў, і “піаршчыкі” ўвялі ў бой цяжкую артылерыю. На экране РТР зьявіўся вышэйшы царкоўны іерарх Алексій ІІ і манатонным голасам стаў казаць пра... пакуты Уладзіміра Пуціна. Слухаць такога кшталту “прамову” было няёмка. Тыя “піаршчыкі”, якія пісалі тэкст выступа патрыярха, зрабілі яшчэ адну памылку, і духоўны лідэр Расеі прамовіў: “Мы згубілі лепшы экіпаж падводнай лодкі “Курск”. Склалася ўражаньне, што патрыярх ня думае пра душы маракоў, якія загінулі жудаснай смерцю, а заклапочаны зьніжэньнем узроўня баяздольнасьці расейскай арміі.

Калі стала ясна, што маракоў ня выратаваць, крамлёўскія “піаршчыкі” вырашылі зьмясьціць акцэнты. Расейскія тэлеканалы сталі з пафасам казаць пра гераізм выратавальнікаў, якія “бяз сна і адпачынку” змагаюцца за жыцьцё сваіх сяброў. Але гераізм выратавальнікаў акзаўся слабым суцяшэньнем,– маракі загінулі, і 118 сем’яў ужо ніколі ня ўбачаць сваіх дзяцей, мужоў, бацькаў і братоў.

**Беларускі піар**

Пасьля таго, як стала зразумела, што маракі загінулі, надышоў час “пагуляць у піар” беларускім спэцыялістам. Каб чарговы раз прысягнуць расейскай ўладзе, Аляксандар Лукашэнка вырашыў аб’явіць траур на Беларусі. Так, Расея перажыла страшную катастрофу, загінулі маладыя людзі ў самым росквіце сілаў, але ўсё ж гэта адбылося ў суседняй краіне. І ў гэтай суседняй краіне кожны дзень гінуць дзясяткі маладых хлапцоў. Але ніхто не аб’яўляе ў Беларусі траур па некалькіх дзесятках тысячаў тых, хто загінуў па абодвух баках чачэнскай лініі фронта.

Гэты крок цяперашняй беларускай ўлады выклікае шэраг пытаньняў. Напрыклад, чаму “братэрская” Расея не аб’явіла траур, калі ў падземным пераходзе на “Нямізе” загінулі 53 чалавекі, сярод якіх

было некалькі дзясяткаў маладзенькіх дзяўчат? Альбо гэта не трагедыя? Чаму ў Беларусі ня быў аб'яўлены траур, калі тэрарысты расстралялі дзясятак армянскіх парлямэнтараў? Альбо мы не жылі разам з армянамі ў Савецкім Саюзе? Чаму ня быў аб'яўлены траур, калі ў Польшчы і Чэхіі падчас неверагоднага наваднення загінулі людзі? Альбо чэхі і палякі нам не браты-славяне? Пытаньняў шмат, але адказаў няма. Ёсьць толькі "піар" – грамадзкія сувязі ў нашым пачварным разуменьні.

**Выбарны піар**

Нядаўна ў беларускіх "піаршчыкаў" зьявілася новая забава – выбары. Лукашэнка паставіў сваім спецыялістам невыканальную задачу,– у Нацыянальны сход павінныя ўвайсьці толькі надзейныя для ўлады людзі, і, да таго ж. Гэтыя выбары павінныя быць прызнаныя эўрапейскімі структурамі. Першую частку задачы выканаць лёгка – надрукуй выніковыя лічбы згодна са сьпісам дэпутатаў, зацьверджаным у адміністрацыі прэзыдэнта, і справа скончаная. Толькі вось ад гэтага другая частка ня вырашыцца, бо эўрапейцы такія разборлівыя – ім падавай справядлівыя выбары. А для Лукашэнкі правесьці справядлівыя выбары, усё роўна, што схадзіць у плаваньне вакол сьвету на падводнай лодцы "Курск".

Ад гэтага ў уладных "піаршчыкаў" настрой не паляпшаецца, бо ім з падводнай лодкі "А.Лукашэнка" падзецца няма куды. А таму яны вымушаныя запускаць на тэлебачаньні перадвыбарную праграму пад умоўнай назвай "Усё нармальна, мама!". Зьмяняюцца адзін за другім на экране пэрсанажы, якія цяжка запомніць, каторыя млява паказваюць перадвыбарную гонку, і пераконваюць людзей, што іх словы нешта значаць. А за сьпінамі гэтых пэрсанажаў мітусяцца гнусныя асобы, якія называюць сябе "піаршчыкамі", а на самой справе зьяўляюцца правакатарамі і дыверсантамі. Іх лёгка разгледзіць на экране тэлевізара, дастаткова толькі ўключыць беларускі канал, іх лёгка пачуць, трэба толькі ўключыць беларускае радыё. Толькі ці трэба? Можа лепш не даваць ім шанца запудрываць нам мазгі?

Давайце лепш будзем самі разьбірацца ў складзенай сытуацыі і карыстацца толькі тымі словамі, сэнс якіх мы ведаем, а то "піар" у нас будзе чорным, сажа – белай, гарчыца – салодкай, а Лукашэнка – добрым.

***Па матэрыялах сайта «Хартыя'97***

## Хартыя'97 CHARTER'97 Новости

**Аб'яднаная Грамадзянская партыя працягвае асвойваць расейскі палітычны рынак.** Лідэры АГП зьдзейснілі працоўную паездку ў Маскву, пад час якой правялі шэраг сустрэчаў з палітыкамі і прадстаўнікамі бізнэсу. Анатоль Лябедзька ахарактарызаваў вынікі кантактаў як «узаемаразуменьне, якое мае ўстойлівую пэрспэктыву». Лідэр АГП ацэньвае адносіны сваёй партыі і Саюза правых сілаў Расеі як «стратэгічнае партнэрства, заснаванае не на роднасных сувязях, а на роўнасьці, узаемапавазе і ўзаемных цікаўнасьцях».

Па выніках сустрэчы былі канчаткова вызначаныя тэрміны правядзеньня круглага стала: «Правы погляд на беларуска-расейскія адносіны», у якім возьмуць удзел лідэры СПС, «Яблоко» і абяднанае апазыцыі Беларусі. Мерапрыемства адбудзецца ў другой палове студзеня, у беларускае сталіцы.

**Выдаткі жыхароў Беларусі на аплату электраэнэргіі і камунальных паслугаў у 2001 годзе падвысяцца ў 2,5-3 разы.** Напрыклад, плата за электрычнасьць вырасьце ў наступным годзе да 39 рублёў за 1 кіліват. Пра гэта паведаміла пад час размовы з журналістамі ў Нацыянальным прэсавым цэнтры віцэ прэзыдэнт канцэрна «Белэнэрга» Ніна Булах.

Па яе словах, у сапраўдны час жыхары нашае краіны пакрываюць толькі трэцюю частку выдаткаў на пастаўку цяпла і электрычнасьці. Астатні цяжар фінансавых выдаткаў нясуць прадпрыемствы. Паколькі такая практыка падрывае таваравытворцу і негатыўна адбіваецца на эканоміцы краіны наагул, ад яе вырашана адмовіцца. На працягу 2001-2002 гадоў мяркуецца паступова падвышаць тарыфы, каб плата насельніцтва за камунальныя паслугі і электраэнэргію цалкам пакрывала выдаткі на іх вытворчасьць і адпавядала сабекошту.

**Канцэрн «Белнафтахім» з 31 кастрычніка падвысіў оптавыя і розьнічныя кошты на нафтапрадукты, якія адгружаюцца канцэрнам і рэалізуюцца прадпрыемствамі яго сыстэмы праз аўтазаправачныя станцыі.**

Зараз кошт аднаго літра паліва на дзяржаўных запраўках (з улікам падаткаў) складзе: бензін А-76 - 455 рублёў за літар, АІ-92 - 564 рублі, ВЕ-95 - 646 рублёў, дызельнага паліва - 411 рублёў. Пры продажы праз АЗС на аўтамагістралі Берасьце-Масква кошт 1 літра паліва складзе: А-76 - 464 рублі, АІ-92 - 575 рублёў, ВЕ-95 - 659 рублёў, дызельнага паліва - 419 рублёў.

# Ярмошына зноў парушыла закон

**Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына, гарант "сумленнага правядзення выбараў", 29 кастрычніка сама парушыла выбарчае заканадаўства.**

Як вядома, агітацыя па ўсім свеце ў дзень выбараў забароненая. Нават і ў лукашэнкаўскім Выбарчым кодэксе занатаваная гэтая элементарная норма.



Пазаўчора ў ранішнім наўпроставым уключэнні беларускага тэлебачання з Цэнтрвыбаркама, гаворачы пра акругі, дзе засталося па адным кандыдаце, Лідзія Ярмошына папрасіла выбаршчыкаў на такіх акругах "ацаніць шанцы" і "прагаласаваць за гэтых людзей". Нават не проста прыйсці і прагаласаваць, а менавіта "за гэтых людзей".

Атрымалася прамая агітацыя за некалькіх канкрэтных асобаў. Справа ў тым, што ў акругах з адным кандыдатам 25% яўкі недастаткова дзеля таго, каб выбары адбыліся — пераможца тут павінен быў набраць 50% галасоў. Вось Л.Ярмошына на працягу ўсяго дня галасавання больш за ўсё і турбавалася менавіта гэтым.

Цікава, як яна сама ацэніць гэты выпадак парушэння выбарчага заканадаўства. Па ўсіх правілах старшыня Цэнтрвыбаркама мусіць прызнаць правіну і прыняць супраць сябе самой пэўныя штрафныя санкцыі.

Нагадаем, дарэчы, што 15 кастрычніка, у дзень правядзення першага тура выбараў, Л.Ярмошына таксама парушыла закон, заклікаўшы людзей прыйсці на выбарчыя ўчасткі і прагаласаваць – бо гэта таксама агітацыя.

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

# Пальто для диктатуры

Александр ДУБРАВИН

**Власть делает вид, что выборы состоялись. В ермошинском ведомстве пытаются свести концы с концами, и пишут отчеты, глядя в потолок. Чиновники важно надувают щеки, газеты трубят, телевидение и радио беснуются, Лукашенко вслух размышляет перед народом. Дескать, люди сделали свой выбор и не ошиблись.**

Между тем, списки новых назначенцев в палату №2 горько разочаровывают даже самых неисправимых романтиков из числа диванных мыслителей. Помнится, пару недель назад некоторые "аналитики" энергично утверждали, что новая палата будет кардинально отличаться от старой. Мол, она не станет такой же ручной и карманной, как прежняя. В нее придут совершенно новые люди. Депутаты нового органа возвысятся до понимания истинного парламентаризма и дадут бой авторитаризму. Ждите, намекали, сюрпризов. (Я, например, читал такие пассажи в "Белорусской Деловой Газете"). И что же? Смотрите, кто пришел! Ба! Все те же физиономии, с одного, так сказать, конвейера, одной кормушки и лечкомиссии.

Чудес не бывает. В заочном споре двух взглядов на нынешние выборы победила точка зрения тех, кто думает головой. Выборы не только превратились в фарс. Эти выборы уже стали похожи на особо опасное государственное преступление. Кажется, нет ни единого параграфа избирательного законодательства, который не был бы нынче нарушен. Никто уже не вспоминает о справедливости, честности, порядочности. Никто уже не ставит в вину власти хамство по отношению к независимым кандидатам и гражданам. Никто уже не вдается в юридические тонкости самого процесса. Одна просьба: соблюдали бы хотя бы свои, написанные для себя и под себя законы. Выполняли бы свои обещания, обильно даваемые международным посредникам.

Мы с вами присутствуем при тотальном, бессовестном, наглом разврате белорусских граждан властью. Можно подтасовать результаты, набросать в ящики бюллетеней, отсеять всех неугодных кандидатов, поменять местами цифры или вместо одних написать другие. Можно сделать вид, что при полном поражении одержал полную победу. Можно получить публичную поддержку у таких же, как и сам, диктаторских режимов. Нельзя сделать одного: заставить людей считать после этого существующую власть порядочной. А власть без авторитета – это просто временный перевес в силах, не более того. Собрал противник в ответ силу больше твоей — и все, суши сухари! Пойдя на подобную фальсификацию выборов, Лукашенко потерял несравненно больше, чем приобрел. Он потерял остатки уважения у той части населения, благодаря которой благополучно выплывал изо всех передряг, случавшихся за шесть лет его правления.

Вместе с тем, наличие в стране неустойчивой и катастрофически теряющей уважение граждан власти чревато опасными последствиями для всего общества. Эта ситуация приучает всех нас к игнорированию закона, к попыткам решать любые проблемы при помощи денег, силы, обмана. Суд становится декорацией. Закон – дышлом. Если на законы плюют те, кто их сочиняет, то рядовому гражданину и сам бог велел. Человек живет в аморальной атмосфере беззакония, безверия и цинизма, что самым негативным образом сказывается на всем обществе и приводит к непредсказуемым социальным последствиям. Эпидемия страшнейшего пьянства уже поразила нашу страну, за ней – очередь наркотиков, распада семей, физической и умственной деградации. Спустя десятилетия, а то и столетия белорусам будут аукаться несчастья, посеянные нездоровыми амбициями господина Лукашенко.




Но вернемся к выборам. Примерно за два года до них нынешнюю главу Центризбиркома (незаконно назначенную даже по лукашенковским законам) Лидию Ермошину стали возить по заграницам за счет объединенной Европы и водить под руки по избирательным участкам, как богатого еврея по Иерусалиму. Ей показывали, как проводят выборы порядочные люди. Наивные иностранцы полагали, что мы желаем проводить выборы честно, но не умеем. Поэтому они искренно делились опытом. А госпожа Ермошина, как рассказывают очевидцы, смотрела на пиршество истинной демократии осоловелыми глазами и вслух про себя отмечала: "Здесь можно сфальсифицировать. И здесь можно…". Это как в музее: один видит Данаю, а другой – голую бабу. Все зависит от воспитания и точки зрения. Воспитание г-жи Ермошиной и ее точка зрения на выборы нам известны со времен последнего референдума. Она, очевидно, считает, что массовые нарушения закона — в порядке вещей и продолжает старательно зарабатывать себе отрицательную карму. Но рядом, как опенки около трухлявого пня, уже появились десятки бессовестных председателей участковых избирательных комиссий, считающих возможным ПОДТАСОВЫВАТЬ результаты выборов. Странно, что они не боятся прочно связать свою дальнейшую судьбу с такой непостоянной вещью, как власть одного человека. Сейчас, когда результаты выборов в палату №2 дополняются свидетельствами очевидцев, в которых живописуется атмосфера всеобщего обмана, лицемерия и беззакония, царившая 15 октября на избирательных участках, очень интересно проследить за тем, как ищут и находят оправдание своему *активному соучастию в гнусном фарсе* некоторые белорусские политики и журналисты, пока еще не потерявшие совесть и дорожащие своей репутацией. То есть, прямо признать свою ошибку и сказать, что объединенная демократическая оппозиция была абсолютно права в своем предвидении картины выборов, они не могут по причине традиционной личной великой гордыни (публично признать свое заблуждение может лишь нравственно развитый человек), а продолжать дуть в одну дудку с официальной пропагандой при столь позорном результате совместных с ней усилий уже "не в дугу". Остается изгибаться подлым образом, придумывать разного рода увертки и напускать туману. Например, можно многозначительно заявить, что и оппозиция, и власть потерпели пораже-

ние(?). Если поражение власти налицо (выборы не признали), то в чем же заключается поражение оппозиции? В том, отвечают нам, что нынче на массовые акции вышло не так много народу, как на предыдущие (?).

Можно только пожалеть, что в наших вузах в последние годы очень мало внимания уделяют изучению логики, а политики и журналисты без способности сделать элементарное логическое умозаключение получают доступ к средствам массовой информации. Какой была основная цель объединенной демократической оппозиции в нынешних выборах? БОЙКОТ! Что такое бойкот? *Отказ граждан от участия в выборах с тем, чтобы они не состоялись и чтобы их не признали в мире.* Выборы не состоялись, их в мире не признали. На участки пришло чуть больше сорока процентов граждан с правом голоса. Следовательно, цель объединенной демократической оппозиции достигнута. Следовательно, те, кто утверждал, что бойкот не получится, были не правы. Следовательно, те, кто призывал граждан на выборы, работал на успех нынешней диктатуры. Следовательно, те, кто принял участие в выборах, - политики незрелые, недальновидные и несерьезные, способствовавшие возникновению смуты в демократическом лагере. Следовательно, деньги, потраченные на избирательную кампанию независимыми кандидатами, выброшены на ветер.

Как нам всем сейчас настойчиво и популярно объясняют умные люди, выборы – это не только некий искомый день, когда проводится итоговое голосование, а вся внутренняя политика власти по отношению к своим оппонентам за несколько лет до этого голосования. Политика властей по отношению к демократической оппозиции в Беларуси общеизвестна. Основные ее приметы – беззаконие и насилие. Следовательно, выборы, еще и не начавшись, в глазах всего мирового сообщества *уже были недемократичными*. Придать им иное качество могли лишь сами оппоненты диктатуры, сами преследуемые насилием люди, сами участники демократической коалиции. Это означало бы, что они *удовлетворены теми условиями*, при которых этот процесс осуществляется. Что стало бы сигналом для всех международных структур о признании вновь избранного органа, со всеми вытекающими из этого последствиями.

Поэтому на наших глазах развернулась настоящая битва. Власть бросила в дело все свои наличные силы. Из засады выскочили провокаторы. Началась психологическая обработка всех и вся. В стан сплоченной оппозиции внедрялись жидкие, аморфные, неустойчивые, а порой и продажные элементы. Четкие требования оппозиции подменялись невидимыми "улучшениями" со стороны режима. Вместо полноценных переговоров выпячивался некий "общественный диалог" власти с марионетками и маргиналами. Распускались нелепые слухи о лидерах демократической оппозиции, ложь и клевета. На сторонников бойкота вешался ярлык "радикалов". Упорно внушалась мысль, что выборы все равно будут признаны, а те политики, которые не пойдут на них, окажутся вне игры. Столько усилий было предпринято режимом, столько выброшено денег, разлито ненависти, куплено и продано совести! И все напрасно!

И все же во всем этом есть иной, высший смысл. Сила цепи, как известно, определяется самыми слабыми ее звеньями. Эти звенья определились. Многое тайное стало явным. Во-первых, испытание на прочность выдержала вся демократическая оппозиция (за небольшой оговоркой, касающейся участия в выборах некоторых социал-демократов). Рискну утверждать, что сегодня мы имеем самое сильное, закаленное и опытное демократическое движение во всем СНГ. (Обратите внимание, как в мгновение ока растворилась среди серой думской толпы демократическая сила в России и как легко она отдалась неограниченной власти ФСБ и военно-промышленного комплекса). Будь у нашей оппозиции хоть одна десятая таких возможностей, какими пользуются их оппоненты от власти, демократия в стране давно была бы возрождена.

Во-вторых, наконец-то ясно осознана необходимость четкого соблюдения предварительных договоренностей, внутренней дисциплины и порядка совместных действий основных демократических партий.

В-третьих, оппозиция получила совершенно непредвиденную явную и тайную поддержку в государственных структурах, в обществе, в народе. Ряды демократических партий за период бойкота пополнились.

В-четвертых, известны имена политиков, которые пошли на выборы, имена журналистов, которые пошли на сделку с режимом, и те газеты, которые фактически работали на диктатуру. Относительно их поведения никто больше не будет питать иллюзий. В трудной ситуации на них нельзя рассчитывать.

Между тем совершенно не хочется делать "танец на костях" неудачников избирательной кампании в палату №2 и ядовито их высмеивать. Потому что грустно. Напрашиваются печальные аналогии из истории. Представьте себе, что гитлеровцы оккупировали нашу страну и собрались провести выборы в марионеточный, продажный, без властных полномочий орган, для того, чтобы приукрасить свою оккупацию фиговым листком псевдодемократии, снизить накал критики в свой адрес во всем мире и сделать аншлюс Беларуси в Третий Рейх. И для этого задействовали всю мощь своей пропаганды, дипломатии, финансов, гестапо, абвера, полиции. А белорусские негосударственные газеты прикинулись "нейтральными" шлангами, стали почем зря ругать подпольщиков, партизан и деятелей Сопротивления. Они, дескать, радикалы. Давать обильную площадь на своих страницах гебельсовским пропагандистам, агитировать за выборы. А одна газета, под названием "Деловой Сотрудник", так даже на первой полосе стала печатать большими буквами слово "ВЫБОРЫ", чтобы люди не забыли прийти и отметиться. А в стане борцов с фашистами в самый решающий момент вдруг объявились провокаторы, трусы, слабые люди, которые согласились подыгрывать режиму и участвовать в его фарсе.

И вот после того, как невероятными усилиями вражеские планы были сорваны, люди услышали от них оправдания: а как бы вы узнали, что этот режим бесчеловечный, что эти выборы недемократичные, что парламент фиктивный, если бы мы в них не участвовали, не пропагандировали и не изобличали? Если бы мы не проверили это на себе? (Вопрос на засыпку: как можно узнать, что триппер – это болезнь?).

Не было бы вашего участия, господа, в этом фарсе, не было бы ничего плохого. Режим, возможно, быстрее понял бы, что халява не пройдет и нужно идти на серьезный компромисс. А так ведь Лукашенко до последнего надеялся на успех. Ваша вина в том, что компромисс этот так и не найден, что возможность давления на режим не осуществилась, что избиратели были дезориентированы, а над объединенной оппозицией нависла угроза раскола, в результате чего план бойкота выборов не реализован во всем объеме. Ваша вина в том, что большие силы и средства, вместо борьбы с режимом, пришлось направлять на нейтрализацию ваших действий.

А вести наблюдение за процессом всенародного обмана, ходить по квартирам, собирать подписи, агитировать за себя, ругать по государственному телевидению и на страницах газет демократическую оппозицию, язвить по поводу ее трудностей, звать народ на выборы никто и никогда вам не запрещал, не запрещает и запрещать не собирается. Более того, режим должен вас поощрить за старание. Но вы на одну только секунду представьте себе, где были бы вы все и ваши газеты в том числе, если бы не эта, не удовлетворяющая вас оппозиция? По-видимому, в том же глубоком, ароматном и темном месте, где находится сейчас палата №2, чикинское телевидение, "Советская Б." и все холуи, всех времен и всех народов.

***По материалам сайта «Наша Свабода»***

# Беларускае багацце: цуд

**Міхал ЗАЛЕСКІ**

**Там, дзе канчаецца зямля нашых крэўных, у бяздоннай Расіі ці сытай Еўропе нашага жыцця не разумеюць. Бо ў іх даўно няма чарадзеяў. Ім жыць нецікава. Прысмактаўся Захад да сібірскай сыравіны — і ўсе дзівосы. Разлічвай сабекошт энерганосьбітаў ды прагназуй будучыню з дакладнасцю да хвіліны.**

**Не тое Беларусь. Наш край і сёння як зачараваны кубак: не ўхапіць чужынцу – пральецца, а не праліе, дык атруціцца. Заходнім мудрацам, чым выбарамі тутка займацца, было б лепей спытацца ў тутэйшых: як гэна ў нас летам адбылося.**

Вось на малюнку, як гара расце, паказана, які калі плён быў. Добра відаць, ды і кожнаму зразумела, што не ўсякі год зародзіць. Рысачкамі пададзеная тая ж самая інфармацыя, толькі паказчыкі штораз браліся сярэднія за пяць апошніх гадоў. У такі спосаб найпрасцей разгледзець сапраўдную тэндэнцыю, адхіліўшы ўплыў надвор'я ды іншых выпадковых фактараў.

Ідэйна-палітычныя адрозненні развітога сацыялізму ад рынкавага ў нашу справу ўблытваць не станем. Але як зайшло аб сацыялізме, то прыгадаем словы Сталіна пра кадры, узброеныя тэхнікай, каторыя вырашаюць усё. Каб пацвердзіць гэтую тэзу, пабудуем маленькую табліčку.

Паколькі традыцыя пагалоўнага ўдзелу ў бітве за ўраджай не адмененая, то мы бярэм не колькасць калгаснікаў, а ўсіх вяскоўцаў ад 16 гадоў да 60 мужчынаў і да 55 жанчынаў. Яна відавочна скарацілася амаль на 40%.



З розных прычынаў засеялі збажынай на 12% меней зямлі. Мо засеялі і тое самае, але ж памятаеце, як памарозіла вясной ды на пачатку лета.

Людзей паменела, а бач: і сеялі, і перасявалі ўсё бясплатна, бо не было яшчэ Лукашэнкавага загаду, каб за работу ды грошы плаціць.

Сеялі тое ў крыху іншую зямлю, чым за савецкім часам. Бо, прыкладам, мінеральных угнаенняў прыпадала ў 1980-1984 гады на тыя зерневыя і зернебабовыя пад 220 кг дзейснага рэчыва на 1 га, а ў 1995 укінулі толькі 109 кг, у 1996 – 136 кг, 1998 – 195 кг. Пра гэтак званую "арганіку", то бок гной, і пісаць не будзем, бо кароваў стала меней і кармяць іх горай і саляркі не стае, каб вывозіць, і г.д. Цёмная, карацей, справа, а зямля, пэўна, бяднейшая, чым была.

Каб надта паменела трактараў, дык не скажаш, усяго на трацінy. Трэба толькі ўлічваць, што стала з імі яшчэ "дэвальвацыя". Бо з наяўных трактараў працаваць магло на 1 ліпеня 2000 года толькі 80%. Амаль тое было і з грузавікамі, жывых налічылі на тую ж дату 71%. А камбайны, дык наогул, напалову колькасці былі нерухомыя.

І вось сабралася палавіна ад былых калгаснікаў ды на палове ад той тэхнікі, што некалі была, правяла найвыдатнейшую бітву за ўраджай і на меншай плошчы чым, у 80-я гады, намалаціла болей, чым за СССРам.

Дык ці то СССРаўскія калгаснікі мелі сухія рукі, ці то зараз, пры калгасным капіталізме яны працуюць, як шасцірукі індыйскі бог, не разбяруцца нашыя суседзі ніколі.

Вам, панове чытачы, сакрэт таго адкрыю. Мы ж на бацькаўшчыне Усяслава Чарадзея жывем, а Сталін наўмысна хлусіў вялікаму савецкаму народу. Цуд усё вырашае. Вось.

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

# Неўтаймаваныя

Жывуць сярод нас людзі ціхія, рахманыя, спакойныя, амаль што флегматычныя. Іншым разам каму-небудзь мусіць нават здацца, што яны крыху пыльным мехам прыбітыя. До-о-о-о-о-оўга думае такі чалавек, перш чым наважыцца на якую справу. Бывае, што здалёк прыглядаецца, прыладжваецца, прыкідвае нешта на сваёй патэльні, памалу кумекае, паціхеньку шурупіць. Няспешна, як вада ў сажалцы, бруяць ягоныя думкі. Павольна круцяцца ў галаве шарыкі і ролікі.

От, калі патрапіць такі небарака табе пад руку пад імгненне якой-небудзь пільнай патрэбы! Калі час не цярпіць і нештачка гарыць. Дасі ж ты яму ў сваіх думках у косці! От ужо назычыш яму: і скулу, і халеру, і трасцу!

Ёсць і процілеглы тып чалавека – нібыта агонь. Пырскае, як каністра з бензінам. Усё жыццё неадчэпна пячэ яго нейкая трасца. Порстка кідаецца на ўсё, што бачыць, без разважанняў, ваганняў і сумненняў. Сядзіць, прыкладам, дзе-небудзь на прызбе, рахмана, нібыта дарослы, а потым знянацку як падхопіцца, як пабяжыць куды-небудзь накшталт неўтаймаванага! Чаго ты бяжыш, каб цябе парвала! Куды ты ляціш, каб цябе перакруціла? Ён і сам не ведае.

Быў некалі адзін такі хлопец у нашай студэнцкай футбольнай камандзе. Бывала, бегае, небарака, усю гульню і без мяча, і за мячом, і за гледачамі, і за хлопчыкамі, што за варотамі стаяць, і за лімонадам у краму падчас перапынку. У абароне ўсё прапусціць, у нападзенні – нічога не заб'е. І на месцы галкіпера пастаяць не можа, бо не стаіцца яму. Стоміцца, небарака, высалапіць язык, як які-небудзь Тузік, а нагамі ўсё адно перабірае. Ё-маё!

Ад каго большая шкода грамадству, пытаю я вас? Безумоўна, ад таго, з каго фантаніруе і пырскае. Бо энергія, як вучыць нас фізіка, нікуды не знікае, а проста набывае іншую якасць. Вось, напрыклад, быў такі дэпутат у палаце №1 па прозвішчы Касцян. Усе яго ведаюць, бо ён славуты сваёй неўтаймаванасцю аратар. Аднаго разу, гавораць, ад прыліву энергіі мікрафон пакусаў. У палатах увогуле — і нашыя не выключэнне — збіраюцца людзі няўрымслівыя, неспакойныя. Ёсць такія і сярод майстроў слова. Чаго вартыя, напрыклад, Акулаў, Зімоўскі, Азаронак альбо Чайка!

Энергія, накіраваная без адпаведнага глузду, можа такой шкоды нарабіць, што потым ніякай рады не дасі. А ў нас гэта проста. Таму, перш чым паддавацца чыёй-небудзь неўтаймаванай энергіі, паглядзі збоку, няспешна, куды яна накіраваная. А калі до-о-о-о-бра разгледзіш, звані санітарам.

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

Бюлетэнь «Грамадзянскі форум».
Заснавальнік: Рэдакцыя «Грамадзянскі форум».

Выдаецца на беларускай і рускай мове. Перыядычнасць - 2 разы ў месяц.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі. Выдадзена накладам 299 асобнікаў.
Выдадзена пры дабрачыннай падтрымцы Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша», Фонда «Альянс Каўнтэрпарт», Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).
Адрас для пошты: 231100, Ашмяны-3, а/я 63. E-mail: Civil_Forum@mailru.com